# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 5 (518) ГОД XI 30 СТУДЗЕНЯ 1966 г. ЦАНА 60 гр


Новыя вершы

## ЛЯСНЫ РУЧАЙ

Люблю цябе, лясная цішыня,
І задуменны шум магутнай хвоі.
На сонечных палях — гарачыня,
А тут звініць, іграючы травою,
Вясёлы ручаёк.
І кожны да яго
Нахіліцца папе вады студзёнай, —
На сэрцы лёгка стане да таго,
Што, здэцца,
Ты абняў бы лес зялёны.
Мне цяжка бачыць чорны буралом.
Я не люблю шалёнай навальніцы.
Мне хочацца быць гэткім ручаём,
Каб кожны мог
З душы маёй напіцца.

Мікола Алтухоў

## УСЁ — МОЛАДЗІ

„Народ — сваёй моладзі» — гэта лозунг адозвы агульнапольскага камітэта Фронту адзінства народа, з якой звярнуўся да свайго народа напярэдадні заканчэння святкавання 1000-годдзя нашай дзяржавы.

Распачынаем другое Тысячагоддзе ў паўнаце творчых сіл, гордыя са сваіх дасягненняў ва ўсіх галінах нашага жыцця. Але найбольшымі і кожнаму відавочнымі з'яўляюцца дасягненні нашай народнай асветы. Тут побач фінансавых накладаў дзяржавы ішлі намаганні ўсяго народа.

Выдатна вывязаўся з пастаўленых перад сабою заданняў Грамадскі фонд пабудовы школ. Толькі ў Беластоцкім ваяводстве на працягу сямі год яго існавання грамадства ўплаціла 226.215 тыс. зл., з чаго сяляне ўнеслі 76.965.000 зл. Моладзь Беласточчыны, якая станецца прадаўжальнікам таго, што мы асягнулі, атрымала 32 школы-помнікі Тысячагоддзя, а 6 далейшых будзе перадазана ў гэтым годзе. Інвестыцыйныя наклады на школьніцтва ў 1966—70 гадах прадбачваюцца на суму 546,8 мільёна злотых.

Аднак міма так вялікіх намаганняў дзяржавы і грамадства значная колькасць пачатковых і сярэдніх школ далей змяшчаецца ў нанятых і цесных памяшканнях. Вялікай увагі і фінансавых накладаў патрабуе прафесіянальнае школьніцтва, якое рыхтуе кадры для нашай гаспадаркі. Неабходна палепшыць умовы школ, якія рыхтуюць кадры для сельскай гаспадаркі.

Адной з найбольш тэрміновых задач з'яўляецца пабудова інтэрнатаў. Гэта непасрэдна звязана з паляпшэннем магчымасцей выбару прафесіі вясковай і рабочай моладзі, аблягчэннем яе доступу да ўсіх прафесіянальных школ. Кожнаму, не толькі бацьку, вядома, як часта далейшая навука маладога чалавека разбівалася па прычыне кватэры, памяшкання. У бягучай пяцігодцы на пабудову і разбудову інтэрнатаў Беластоцкае ваяводства прадугледжвае суму 13,7 мільёнаў злотых. Але патрэбы ў гэтай галіне на толькі вялікія, што іх заспакаенне павінна адбывацца супольнымі намаганнямі дзяржавы і грамадства.

З мэтай стварэння грамадскага чыну ў справу агульнанароднай асветы спалучыліся дзве існуючыя дагэтуль арганізацыі: Грамадскі фонд пабудовы школ і пабудовы сталіцы ў адну — Грамадскі фонд пабудовы школ і інтэрнатаў.

З энтузіязмам вітае і адклікнецца на адозву — заклік ФАН нашае беларускае насельніцтва. Адклікнецца не толькі таму, што гэта вялікі гуманны чын, але і таму, што яно само адчувае карысныя вынікі гэтай акцыі. Наша моладзь больш усяго патрабуе цяпер інтэрнатаў. Іменна таму гурткі БГКТ і ўсе члены павінны як найактыўней уключыцца ў рэалізацыю аднаго з найбольш фундаментальных заданняў нашага пакалення, прыняць удзел у стварэнні і ўмацаванні такой сістэмы асветы, якая ўсёй нашай моладзі запэўніць адукацыю, высокія прафесіянальныя веды і падрыхтоўку да жыцця.

«Няхай з нашых клопатаў і любві да сваіх сыноў і дочак, братоў і сясцёр народзіцца вялікі грамадскі чын, хай зменіцца ён у вялікую раку грамадскай энергіі здольнай ідэямі сацыялізма надаваць матэрыяльную форму, форму новых інтэрнатаў, школ у горадзе і вёсцы, майстэрняў і лабараторый, гімнастычных залаў, маладзёжных дамоў культуры, памяшканняў настаўнікам на вёсцы, вясковых цэнтраў здароўя», — гаворыць заклік Фронту адзінства народу.



Снежная мазаіка. Фота Ул. Паўлючук.

Рэфлексіі з роднай краіны

## АД ОРЛІ ДА ПІЛІК

Сакратарыят старшыні Прэзідыума Павятовай рады нарадовай у Бельску і яго намесніка (дзверы направа, старшыні налева) абсталяваны лепш чым падобныя сакратарыяты ў ваяводскім Беластоку. Дэцэнтралізацыя. Аддольная ініцыятыва і аддольныя пачынанні — рэч карысная. Затое ў кабінет (з сакратарыята) намесніка старшыні ўваходзіш без папярэдняга паведамлення мілай сакратаркі. Стукаем і зараз адчыняем дзверы. Кароткая размова з Уладзіславам Гадоньчукам цешыць. У справе культуры вы? Культуру на вёсцы хочам рушыць. І невядома (ці вядома) чаму пераходзім на тэлевізары. СФОС прызнаў для Бельска 50 тыс. узнагароды. Аддалі іх на тэлевізары. 4 штукі. Пайшлі, намеснік старшыні лёгка моршчыць лоб і вылічвае: у Малінікі, Рыбалы, Любешчу і Кашалі. А ўвогуле, больш сотні чарадзейскіх скрынак на бельскай зямлі ўжо. У Бранску працуе самастойны пункт продажу тэлевізараў, а ад новага года і ладзяцца тут яны. Тры даязных з Бельска напраўчых пунктаў расселася ў Боцьках, Орлі і Вышках.

Орля — прыклад нявыкарыстанага шанца. Вялікі дом, у якім змяшчаецца бібліятэка, святліца і клуб «Руху». І вядома, кожны стараецца сабе, і нікому нічога не выходзіць. Скаргі на ГРН, які пад бокам. Людміла Ёдла, абаротлівы чалавек, каторы ўжо раз спрабуе клеіць нешта ў культуры ... мур абыякавасці. У Орлі не існуе рэч так карысная, як моцны кантакт са школай. Вопыт паказвае, што найлепш пастаўлена культурная праца бывае там, дзе ў яе ўключаецца школа. Кіраўнік арлянскай святліцы аж з Цеханоўца. Адразу было вядома, што нічога не будзе, што ён на час кароткі.

(Працяг на стар. 4)





**БелАЗ — 540 бесканкурэнцыйны!**

Восенню пачалася серыйная прадукцыя новай беларускай машыны: гэта 27-тонавы «БелАЗ—540». Яна бесканкурэнцыйная на свеце — ёю зацікавіліся вялікія заходнія фірмы.

«БелАЗ — 540» узнагароджана залатым медалем на міжнароднай прамысловай выстаўцы ў Лейпцыгу.

**Гігант**

У Гомелі пабудавана суперфасфатавы завод — адзін з найбольшых у Еўропе.

Дзякуючы таму прадукцыя суперфасфату ў Беларусі моцна павялічыцца.

**Эканомія**

Экзекутыва Мінскага абкома Кампартыі Беларусі прыняла пастанову, што будуць створаны вышэйшыя эканамічныя курсы для дырэктараў, галоўных інжынераў і галоўных эканамістаў усялякіх прадпрыемстваў.

**Разбудова**

У Баранавіцкім баваўняным камбінаце нядаўна ўведзена ў эксплуатацыю 132 тысячы прадзільных верацён і 1890 ткацкіх станкоў.

**Слонім**

Горад Слонім існуе ўжо тысячу год.

**«Аўтатранспарт Беларусі»**

У Беларусі пачала выходзіць новая газета — «Аўтатранспарт Беларусі». Газета выходзіць як орган Беларускага міністэрства аўтамабільнага транспарту.

**Праз Брэст**

Каля 60 працэнтаў усіх пасажыраў, якія едуць у СССР, праязджае праз Брэст.

**«Крыніца»**

У аколіцы Ждановічаў пад Мінскам пабудавана камфортны санаторый «Крыніца». Тут будуць лячыцца хворыя на кішкі.

## Перадз'ездаўская трыбуна

# ШТО ТАКОЕ БГКТ

Пераглядаючы перадз'ездаўскую дыскусію ў «Ніве» і праанлізаваўшы аргументацыю аўтараў, я прышоў да вываду, што мушу прыняць удзел у дыскусіі.

Па-мойму, некаторыя аўтары вельмі завужваюць мэты і заданні БГКТ (аўтараў у маіх меркаваннях не буду называць па прозвішчу. Хто чытае «Ніву», той будзе ведаць, з кім вяду палеміку).

1. БГКТ паклікана да жыцця ў 1956 годзе. Мэты і заданні былі акрэслены статутам Т-ва, а менавіта:

**Беларускае.** Сама назва Т-ва да чагосьці забавязвае. Г. з., сябры, актыў і штатныя працаўнікі маральна абавязаны ў штодзённай працы ў Т-ве і звонку Т-ва быць прыкладнымі і ўзорнымі беларусамі, патрыётамі роднай мовы і прапагатарамі яе ва ўсіх галінах штодзённага жыцця, і ў любым асяроддзі. Гэтак разумею назву Т-ва беларускае.

Гэтыя заданні і мэты пашырэння беларускай культуры і мовы, у меру магчымасцей Т-ва, пашыраліся ў першай пяцігодцы існавання яго. Ад другой палавіны 1960 г. пачаўся паступовы заняпад культурна-асветнай дзейнасці Т-ва ў Беластоку. Быў сякі-такі хірэючы хор — распусцілі. Быў балет — распусцілі. Асталіся недабіткі. Скажаце: «Лявоніха». Гэта штатныя работнікі, якія на працягу 4-ох год свайго існавання едуць амаль што на той самай праграме за малымі выключэннямі некаторых песень, і то не беларускага фальклору.

а) На мой погляд трэба правесці грунтоўны перагляд дзейнасці Т-ва.

б) Пры прапановах кандыдатур у Галоўнае праўленне дэлегаты з'езда не павінны кіравацца сімпатыямі ці антыпатыямі да паасобных кандыдатаў, а глядзець на яго арганізацыйныя здольнасці.

в) Трэба было б у статуце зрабіць змену тэрміну кадэнцыі Галоўнага праўлення з 3 год на два гады.

г) Адмяніць кіруючую ролю сакратара на наступны склад:

Галоўны старшыня

І-шы віцэ-старшыня (да спраў адміністрацыйна-гаспадарчых і арганізацыйных)

ІІ-гі віцэ-старшыня (да спраў асветы і мастацтва)

ІІІ-ці віцэ-старшыня (да спраў выдавецкіх, прапаганды і друку)

Скарбнік і яго намеснік

І-шы сакратар (падначалены І-му віцэ-старшыні)

ІІ-гі сакратар (падначалены ІІ-му віцэ-старшыні)

ІІІ-ці сакратар (падначалены ІІІ-му віцэ-старшыні).

Рэвізійная камісія застаецца без змен.

**Грамадскае.** Гэтая назва забавязвае Т-ва да ўсебаковай дзейнасці ў беларускім асяроддзі, а таксама праяўляць ініцыятывы грамадскага характару, якія выцякаюць у штодзённым жыцці вёскі, мястэчка і горада, у суцэльным супрацоўніцтве з існуючымі партыйнымі ўстановамі і арганізацыямі грамадскага характару.

Калі так будзе пастаўлена справа працы Галоўнага праўлення, павятовых і гарадскіх аддзелаў, а таксама гурткоў БГКТ уцэлым, то тады ў нашай перадз'ездаўскай дыскусіі не будзе пытання «з гурткамі, ці без гурткоў?»

Адзін з дыскутантаў зрабіў закід Т-ву, што яно ў І-ай пяцігодцы занялося гаспадарчай дзейнасцю і занядбала выдавецкую дзейнасць.

ГП БГКТ у меру сваіх магчымасцей і матэрыяльных сродкаў увесь час займалася выдавецкай дзейнасцю. Фактаў пералічваць не буду, бо яны ўсім вядомы.

Калі паважаны дыскутант справу ставіць так, каб Галоўнае праўленне пераўтварыць у выдавецкае Т-ва, тады гурткі непатрэбны, як і ўся дзейнасць масавай культурнай арганізацыі. Думка нядрэнная. А ці шаноўны дыскутант задумаўся над тым, адкуль гэтае Т-ва возьме грошы на гэтую мэту. І ці дастаткова моцныя нашыя паэтыцкія кадры, каб абяспечыць выдавецтва бесперабойным і высока-мастацкім матэрыялам? Мушу падкрэсліць, што шаноўны дыскутант на крэдыт працаваць (два гады, год ці паўгода) не захоча. **І зноў жа грошы.** Дык вось чаму прыступіла таварыства да гаспадарчай дзейнасці.

**Культурнае.** Гэта назва абавязвае пашыраць культурна-асветную дзейнасць ва ўсіх магчымых галінах, як:

а) праводзіць у масах прапаганду беларускага школьніцтва;

б) прапагаваць беларускую кніжку, газету, часопісы;

в) арганізаваць тэатры, харавыя, музычныя, балетныя і эстрадныя калектывы;

г) арганізаваць лектарскія і мастацкага слова калектывы;

д) наладжваць усялякія курсы (згодна з запатрабаваннем у даным асяроддзі);

е) рабіць кожны 6 месяц агляды мастацкіх калектываў, з мэтай выяўлення здольных выканаўцаў.

Вось так гляджу на перспектыву будучай працы Т-ва.

**К. СІДАРОВІЧ**
Беласток

На здымку: зімовы шпацыр па Мінску.

**СОРАК ГОД ТАМУ...**

## У Беластоку

«...Тэкстыльная прамысловасць Беластока і вакруга, якая працавала раней на рускі рынак, цяпер фактычна бадай зусім спынілася. Поўная немагчымасць найсці збыт для прадуктаў беластоцкай прамысловасці, як на ўнутраным, так і на замежных рынках прымусіла фабрыкантаў пайсці на вываз фабрык. Вясной 1925 г. цэлы шэраг фабрык, нягледзячы на супраціў рабочых, якіх гэты вываз фабрык кідаў на поўную безрабоціцу, былі вывезены ў Румынію...» (З пастановы ІІІ канферэнцыі КПЗБ)

## Бюджэт Гайнаўшчыны

Нядаўна Павятовая рада нарадова зацвердзіла бюджэт на 1966 і 1967 гады.

У параўнанні да 1965 года бюджэт на 1966 год павялічаны на больш як 10 мільёнаў зл. і складае суму 91.838 тыс. зл. На асвету і выхаванне прызначана 21150 тыс. зл., а на ахову здароўя 16867 тыс. зл.

У гаспадарчых планах павета на 1966 год прадбачана рэалізацыю 79 пастулатаў і прапаноў, якія былі зарэестраваныя ў час кампаніі ў Сейм і рады нарадовыя.

**В. Козак**
Гайнаўка

**ФЕСТЫВАЛЬ САВЕЦКАЙ ПЕСНІ**

ТППР супольна з 12 іншымі арганізацыямі рыхтуе у 1966 годзе V юбілейны агульнапольскі конкурс аматараў — выканаўцаў савецкай песні. Агляды адбудуцца ў трох этапах. Павятовыя — да 15 сакавіка, ваяводскія — 27 сакавіка. Агульнапольскі фестываль савецкай песні праводзецца ў Зялёнай Гужэ. За І месца паедзецца ў СССР. Думаем, што Беластоцкае ваяводства ў юбілейным конкурсе займе добрыя месцы, як гэта было ў папярэдніх. (вл)

## „Завяшчанне Гітлера“ (2)

# Чаму Германія прайграла вайну?

У гутарках з Борманам у лютым і красавіку Гітлер не раз вяртаўся да ракавых пытанняў: «Чаму Германія прайграла вайну? Хто ці што віной гэтаму? Павінна была Германія пачаць вайну ці не?» Здавалася б, адказ у гэтыя дні, перад катастрофай, якая немінуча насоўвалася, «без чвэрці дванаццаць», мог быць толькі адзін — адмоўны. Аднак ён усё яшчэ сцвярджаў, што ў Германіі нібыта не было выбару, што вайна была непазбежная, таму што іншым шляхам нельга было «аб'яднаць усіх немцаў у адной вялікай імперыі». Гітлера нікольні не бянтэжыла, што ў ходзе вайны народы змаглі на сваім горкім вопыце пераканацца, як, каго і якімі метадамі германскі імперыялізм хацеў «аб'яднаць» у імя ўстанаўлення свайго сусветнага панавання. Аб тым, як ён тлумачыў усё, што здарылася (самі факты добра вядомыя нашаму чытачу), і пойдзе гутарка ніжэй. Як мы ўбачым, Гітлер зусім адвольна трактаваў падзеі, часам ставячы іх з ног на галаву, жадаючы апраўдацца, зваліць віну за тое, што здарылася, на іншых.

«Што датычыць Германіі, — гаворыць запіс 4 лютага 1945 года, — то... мы былі асуджаны, як толькі мы ўступілі ў вайну, не магло быць і гутаркі, каб выйсці з яе». «...Гібельным фактарам гэтай вайны, — гаварыў Гітлер 14 лютага 1945 года, — аказалася тое, што Германія пачала яе вельмі рана і ў той жа час вельмі позна. З чыста ваеннага пункту гледжання нам трэба было б пачаць вайну раней. Я павінен быў захапіць ініцыятыву яшчэ ў 1938 годзе, а не дазволіць уцягнуць сябе ў вайну ў 1939 годзе, бо вайна была ў любым выпадку непазбежнай. Тым не менш наўрад ці можна абвінаваціць мяне, бо Англія і Францыя згадзіліся ў Мюнхене з усімі маімі патрабаваннямі!» «Ворагі штурхнулі нас у вайну, — паведамляе запіс 21 лютага 1945 года. — Па сутнасці пагроза вайны існавала са студзеня 1933 года, з моманту майго прыходу да ўлады... Напярэдадні Мюнхена я зразумеў без усякага сумнення, што ворагі трэцяга рэйха былі поўныя рашучасці авалодаць нашымі скальпамі, і не было ніякай магчымасці дамовіцца з імі... Таму нам тады заставалася толькі нанесці ўдар. Мы павінны былі б пачаць вайну ў 1938 годзе. Гэта быў апошні шанц лакалізаваць яе. Аднак яны ўступілі па ўсіх пунктах, як баязліўцы, якімі яны і былі, пайшлі на ўсе нашы патрабаванні. У гэтых умовах было цяжка ўзяць на сябе ініцыятыву адкрыцця ваенных дзеянняў. У Мюнхене мы страцілі адзіную магчымасць выйграць вайну, якая была непазбежная ў любым выпадку. Хоць і мы не былі поўнасцю падрыхтаванымі, мы тым не менш былі падрыхтаваны лепш, чым нашы ворагі. Самай спрыяльнай датай быў верасень 1938 года. А якія магчымасці для лакалізацыі канфлікту мы тады мелі!

Нам трэба было іменна тады вырашыць нашы спрэчкі сілай зброі, не звяртаючы ўвагі на жаданне працiўнікаў задаволіць нашы патрабаванні. Варта было нам вырашыць судзецкую праблему сілай, мы адначасова ліквідавалі б Чэхаславакію, усклаўшы адказнасць за гэта толькі на Бенеша. Вырашэнне пытання ў Мюнхене магло быць толькі часовым, бо зусім відавочна, што мы не маглі б цярпець гнайніка, хоць і невялікага, у сэрцы Германіі, якім была незалежная чэшская дзяржава. Мы ўскрылі гэты гнайнік у сакавіку 1939 года, аднак у абстаноўцы, псіхалагічна менш спрыяльнай, чым тая, якую мы мелі б, калі б вырашылі пытанне сілай у 1938 годзе. Справа ў тым, што ў вачах сусветнай грамадскай думкі ў сакавіку 1939 года мы былі ўпершыню вінаваты. Мы больш не абмяжоўваліся ўз'яднаннем Германіі, а ўстанавілі пратэктарат над нямецкім насельніцтвам».

## Праблемы Старой Вёскі

Тэлевізар у Старой Вёсцы паявіўся ўпершыню гадоў пятнаццаць таму назад. Не як прадмет штопраўда, а як праблема. Здарылася гэта познім ужо вечарам, а прычынай усяго быў Грышка — школьнік, які падняўшы нос з-над шырокай газеты, заявіў на ўвесь голас:

— Тэлевізары будуць, — вось што будзе!

— Што гэта ты там вычытаў? — запытала цётка Аксеня.

— Тэлевізары, — адказаў Грышка, — гэта такія скрынкі, як радыё, толькі будзе ў іх усё відаць, што дзеецца ў Варшаве, што ў Маскве, што было і што будзе.

— Не пляці, такіх скрынак не было і не будзе, — рашуча заявіў дзядзька Максім.

А дзед Якуб дадаў павучальна:

— То толькі чараўнік, злыдзень, сынку, паказваў цару Давідаві, што было і што будзе. Але гэта ўсё д'ябальская сіла.

— А гэта што, не д'ябальская сіла? — адазвалася, паказваючы на вісячую на сцяне «точку», бабуля Тэкля. — Што гэта, як не чарты там пішчаць?

— Якія там вам у чорта чарты, — раззлаваўся на добра Тэклін зяць, Іван.

Распачалася спрэчка пра радыё і тэлевізары, у час якой усе былі згодны ў адным: ніякай «тэлевізіі» не было на свеце і быць не можа.

— От, пішуць няведама што ў тых газетах, такая ў іх заўсёды праўда, — сказала цётка Аксеня.

— І дзяцей вучаць чорт ведае чаму, — дадаў дзед Якуб.

*

Першы тэлевізар у Старой Вёсцы паявіўся тры гады таму назад, зараз пасля таго, як на Беласточчыне стварылася магчымасць адбіраць варшаўскую тэлевізійную праграму. Ніхто аднак у Старой Вёсцы аб гэтым першым тэлевізары не ведаў і не ведае да сёння.




Купіў сабе першы тэлевізар мясцовы святар «бацюшка», як яго ўсе называюць. Бацюшка ў Старой Вёсцы малады, энергічны, і ўсе яго любяць: жанчыны за прыгожы голас у царкве, мужчыны за бадзёрасць, а найбольш мясцовага святара любяць старыя бабы за прыгожыя пропаведзі.

Старыя бабы не любяць аднак наогул усяго новага, і таму бацюшка рашыў захаваць сваю пакупку ў глыбокай таямніцы. Мо баяўся, каб не сказалі, што прывёз ён на плебань «нячыстую сілу», а мо проста палічыў, што святару непрыстойна мець тэлевізар. У кожным выпадку тэлевізар прывезены быў ноччу спецыяльна нанятым у Беластоку таксі і размешчаны ў такім месцы, дзе не заглядаюць госці, а антэна развешана на гары.

З той пары святар Старой Вёскі хутка адслужваў вячэрню, і калі бабы пераджоўваючы ў галовах яго натхняльныя пропаведзі лянiва дрэпталі дахаты, бацюшка замыкаўся ў адным з пакояў плебаніі, аглядаў рэвіі тэлевізійных «звёздаў».

*

Сапраўдны тэлевізар жыхары Старой Вёскі ўбачылі ўпершыню некалькі месяцаў таму назад. Прывязлі яго з горада ў мясцовую святліцу, як узнагароду за працу грамадскім чынам.

Што думалі тады сяляне Старой Вёскі, якія да нядаўна рашуча пярэчылі магчымасці перасылання рухомых карцін з шырокага свету ў іх закінутую вёску? Невядома. Вядома тым часам, што прынялі яны гэтую навінку тэхнікі са спакоем і павагай, быццам бы тэлевізія вядома ім была ад вякоў і нічога ў ёй не было надзвычайнага.

І не ў тым праблемы Старой Вёскі. Праблемы мае тут дзядзька Пілiп, цётка Аксеня, мясцовы бацюшка і шмат іншых асоб.

Дзядзька Пілiп, найбольш зацвярдзелы ў вёсцы карцёжнік, не можа цяпер вечарам знайсці сяброў да дурня, цётка Аксеня не можа свайго «старога» запудзіць лушчыць боб, а мясцовы святар заўважае, што і без таго шчуплая горстка мужчын — пастаянных наведвальнікаў царквы, штораз больш шчуплее.

У кожны вечар, асабліва ў суботу, абшырная святліца запханая людзьмі да апошняй шчыліны. Моладзь і дарослыя пільна сочаць за ўсім, без выбару, што плыве з сярэбранага экрана. Павольна, але няўхільна родзяцца тут новыя звычаі, новыя погляды, новы стыль жыцця і новая культура Старой Вёскі.

**РЫГОР ПАЎЛЮК**

**ПАШТОЎКА З БССР**



Помнік Кастусю Каліноўскаму ў Свіслачы.
Фота С. Панізнік




Адбылася нядаўна ў Беластоку ваяводская нарада на тэму працы клубаў на вёсцы. Падаю пэўныя рэфлексіі з яе.

Выглядае на тое, што клубы «Рух» і іншыя маем і не ведаем, што з імі рабіць. Так справа маецца часта ў ваяводстве, у людзей, якія хацелі б, каб кожны клуб аж распірала ад працы, якая ў ім праводзіцца. Зрэшты пытанне другое. Ці хто ведае, што ў клубах павінна рабіцца? Калі на нарадзе ваяводскай паслухаеш аб паразумленнях, указаннях і прапановах накіраваных да непрысутных людзей з клубаў з вёсак, то аж вушы табе спухнуць і ўрэшце дадумаешся і з палёгкай уздыхнеш: пагаварыць і разыдуцца.

А клубы фактычна? Гэта добрая рэч. Праз тое, што яны ёсць у вёсках. А калі з радыё ці тэлевізарам то ўжо вельмі добра. Стаяць сабе гэтыя клубы чыстыя больш ці менш (чыстыя то яны павінны быць) і людзі могуць сабе зайсці, пагаварыць, пасядзець. Людзі проста маюць куды зайсці, і гэта найважнейшая роля ўсялякіх клубаў на вёсцы. Такую сваю ролю клубы спаўняюць добра. Вясковым людзям адпавядае такая форма. Неяк упадабняе іх да горада. Нават кава чорная паднімае чалавека ва ўласных вачах і з часам смакаваць пачынае лепш ад піва ці чыстай.

Увогуле спакойна плыве жыццё клуба і вакол яго. Таму можна падэнэрвавацца, калі «місіянеры» пачынаюць вялікія дыскусіі над «Паляпшэннем працы вясковых клубаў». Праекты пачынаюць сыпацца, бы з рукава. А ў тым часе ў Будах у Белавежскай пушчы ці Янове ў Сакольскім людзі адпачываюць сабе пры століках, глядзяць тэлевізар і задаволены, што маюць клуб.

Клубы трэба закладаць: «Руху», ГС-у і іншыя, дзе толькі няма, а дзе разумная рада нарадовая выкамбінуе памяшканне. І не заламваць рук, што няма ў клубе 10-ці секцый, 10-ці гурткоў, 10-ці дакладаў. Гэтыя формы, на жаль, належаць ужо да мала атракцыйных. І не заўсёды сведчаць аб культурнасці. Затое дбайнасць вёскі, каб клуб быў як уласны дом — цёплы, прытульны і чысты, ляжыць у яе магчымасцях. Часта назіраюцца выпадкі, калі клуб не прыбраны, бо ГРН не наняла прыбіральшчыцы. А мо б так самім? Хто мае час па чарзе. Не складаць на іншых і не чакаць на іншых. Бо рукі нікому не адпадуць ад ніякай работы.

Справа тэлевізара ў клубе, які адкрывае ўвесь свет, дае найцікавейшыя і найлепшыя спатканні. Не дзіва, што людзі яго хочуць. Як толькі дастаць? Ёсць на Беласточчыне крыху тэлевізараў з так званых грамадскіх грошай. Толькі палавіна грамадскіх. Другую дакладаюць рады нарадовыя. Добры спосаб, каб мець тэлевізар у сваім клубе.

Увогуле маю падставы меркаваць, што клубы з тэлевізарамі, столікамі і крэсламі заваююць вёску, выганяючы з яе розныя там псеўдасвятліцы (брудныя сені для танцаў) і псеўдагурткі (заробкамі з якіх абліваецца выступленне). І гэтага клубам, іх кіраўнікам, іх пакуль не зусім задамоўленым у грамадскай функцыі радам, жадаю

**Вера Леўчук**

ПРОСТА І КАРЫСНА

# МАГНІТ І ЎРАДЖАЙ

Зямля мае свой магніт. Яго лініі ідуць з поўдня на поўнач. Аб гэтай з'яве ў прыродзе вучаць дзяцей ужо ў пачатковай школе, яна наогул вядомая. Наглядна магніт зямлі выкарыстоўваецца пры пабудове компасаў.

Што аднак супольнага магніт зямлі мае з ураджаем? Аказваецца, што мае, і то даволі многа. Пераканаліся ў тым канадскія вучоныя з даследчай сельскагаспадарчай станцыі ў Летбрыдж. Праводзячы шматгадовыя вопыты заўважылі яны, што карэнні, скажам, азімай пшаніцы нераўнамерна разрастаюцца ў глебе. **Яны накіроўваюцца ў напрамку паўночнага магнітнага полюса зямлі.** Калі б пшаніцу пасеяць сеялкай так, каб радкі ішлі з поўдня на поўнач (або наадварот), тады яе карэнні ўжо ад пачатку моцна згушчаюцца і ўзаемна пераплятаюцца. Атрымліваецца вялікі сціск карэнняў, які адмоўна дзейнічае на агульны рост расліны. Адначасова палоскі між радкамі, шырыня якіх звычайна сягае 15—17 сантыметраў, астаюцца недастаткова выкарыстаны.

Калі радкі пшаніцы ідуць з захаду на ўсход (або наадварот), тады яе карэнні маюць больш спрыяльныя ўмовы развіцця. Проста распаўзаюцца па баках, а не згушчаюцца ў шнурок. Асабліва гэта важна падчас першай стадыі развіцця расліны.

Вывад тады просты: дзе толькі гэта магчыма сеяць у напрамку ад усходу да захаду сонца.

Якія гэта дае практычныя магчымасці?

На аснове шматгадовых вопытаў канадскія вучоныя сцвердзілі, што гэты просты прыём (без ніякіх дадатковых агратэхнічных мерапрыемстваў) садзейнічае павелічэнню ўраджаю на 2 цэнтнеры з аднаго гектара. Адначасова пшаніца даспявае раней на тыдзень. Доследы праводзіліся не толькі з азімай пшаніцай. Сцверджана таксама вялікі ўплыў магніта зямлі на паскоранне росту ярай пшаніцы, жыта, аўса, ячменю, ільну і кукурузы.

Канадцы праводзілі таксама доследы адносна ўздзеяння на збожжавыя расліны штучнага магнітнага поля, якое ў многа разоў перавышала магніт зямлі. Аказалася, што тэрмін вырастання зерня, якое падавалася ўплыву магнітнага поля, скарочваўся ў два разы. У нашых умовах гэты прыём трэба адлажыць на будучыню. Цяпер аднак варта выпрабаваць першы спосаб: сеяць з захаду на ўсход або наадварот. Гэта, дарэчы, пацвярджае старадаўні звычай якога прытрымліваліся некаторыя сяляне. Менавіта сяўбу пачыналі яны ад усходу. (вр)

### Папраўка

Па маёй і рэдакцыйнага ад'юстатара віне ў маім рэпартажы «Сон старога Бельска» знайшлася памылка. Сказ у 4 абзацы знізу павінен гучэць: Планы на новы, прыстасаваны да патрэб Дом культуры, вельмі мглістыя, хоць нібы рэальныя.

**В. Леўчук**

## ◆ ЭТНАГРАФІЧНЫ КУТОК ◆



Хата Івана Кананьчука з Соцаў, Гайнаўскага павета. Фота Ул. Юзвюк

 



Зіма ў Бельску. Фота А. Казёл

## СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА БЕЗ ТАЯМНІЦ

# Прапануем мяшанкі

Мяшанкі са збожжа — гэта ўжо не навіна. У перадавых краінах мяшанкі ўжываюцца ўжо шмат год. Жывёлагадоўцы зразумелі, што шырокі асартымент рэчываў, дадатковая колькасць, напр. бялкоў ці паляпшэнне іх біялагічнай вартасці — гэта не абы-якая магчымасць павысіць эфектыўнасць жывёлагадоўлі.

Найбольш вобразна справу можна прадставіць так: калі чалавек будзе ўвесь час есці толькі мяса, хутка разззлуецца і запытаецца, дзе ж тут рацыянальнае кармленне. Чалавек любіць катлеты і біфштэксы, але найбольшы прыхільнік катлетаў не задаволіцца адным мясам. Так і хатняя жывёла мае сваё «мяса» ў выглядзе збожжавых кармоў. Аднак адно збожжа не забяспечыць усіх патрэб жывёлы, не гаворачы ўжо аб эканамічных выніках такога кармлення. Значыць у кармавую норму ўваходзіць павінны розныя прадукты.

На Беласточчыне гэтая праблема ўсё яшчэ не вырашана. Нямала яшчэ жывёлагадоўцаў лічыць корм на «кілаграмы», забываючыся, што кілаграм мяшанкі, гэта зусім не тое самае, што кілаграм дробленага ячменю. З гадавой прадукцыі зерня (1 млн. тон) беластоцкія сяляне прызначаюць на корм жывёле каля 850 тыс. тон. Найбольшы план скупу збожжа ў апошнім сезоне склаў 130 тыс. тон.

У краіне як становішча са збожжам, так і рэнтоўнасць жывёлагадоўлі пераконваюць у тым, каб у найбліжэйшыя гады шырока распаўсюдзіць збожжавыя мяшанкі. Таму і на значэнне мяшанак звяртаецца вялікая ўвага ў час сёлеташніх сельскагаспадарчых курсаў.

Вось некалькі цікавых лікаў. Карова, якая дае 25 кг малака, выдзяляе ў ім 830 гр. бялкоў. Калі карова важыць 500 кг і дае 5 тыс. кг малака ў год, прадукуе столькі сухой масы ў малацэ, што перавышае ў 2,5 разоў уласную вагу. Можна ўявіць сабе, колькі бялкоў і іншых рэчываў патрабуюць лепшыя каровы, якія знаходзяцца на жывёлагадоўчай станцыі ў Элку, якія даюць па 7000 — 8000 літраў малака. Сусветны рэкорд гадавога надою малака ад каровы — 16 тысяч літраў.

Ні малако, ні мяса, ні воўна не вырасце з «нічога». Жывёла павінна атрымаць у корме адпаведную колькасць неабходных рэчываў. Авечкагадоўцы ведаюць аб такой з'яве: дрэнны корм праз нейкі час становіцца прычынай змены колеру воўны, парушаецца аднароднасць воўны. У такім выпадку воўна мае меншую вартасць.

Патрэба ў бялках залежыць ад узросту, віду і колькасці прадукцыі, агульнага стану жывёлы. Напрыклад, цяляты атрымліваюць 125 грамаў на кармавую адзінку. Вялікую патрэбу ў бялках праяўляюць, напр. куры, а значна меншую, напр. коні. Курыца аддае шмат бялкоў на стварэнне яек, а конь «перарабляе» корм галоўным чынам на энергію (перш за ўсё вугляводы і тлушчы). Кормнікі, прызначаныя на ўбой ва ўзросце 7—8 месяцаў (на мяса) павінны атрымаць у кармах больш бялкоў, чым кормнікі на саланіну і мяса. Свінаматкі таксама патрабуюць больш бялкоў на развіццё парасятаў.

З усяго сказанага вынікае, што корм хатняй жывёлы павінен быць разнародны. Іменна таму патрэбны розныя мяшанкі з вельмі розным складам і рознымі колькасцямі бялкоў.

Аб іх — за тыдзень.

Інж. М. СУХАЖЭБРСКІ

# НЕ ТОЛЬКІ ВЫБАР ПРАФЕСІІ

Якую выбраць прафесію? — Гэта пытанне, якое хвалюе вучняў апошніх класаў пачатковай школы. У якую школу паслаць свайго Віцьку ці Славіка? — клапоцяцца бацькі.

З аднаго боку справа не надта складаная. Проста трэба злажыць прашэнне ў адпаведным часе да дырэкцыі школы, затым здаць уступныя экзамены і, як некаторыя думаюць «асабіста пагаварыць з дырэктарам школы, каб у разе чаго папіралі майго сына». І вось такім чынам Славік ці Віцька ўжо ў найбольш «важным» тэхнікуме, але...

Ці сапраўды гэта канец справы? А калі так, дык чаму многія вучні ўжо ў першым годзе навукі, у сярэдняй школе, не даюць рады з апанаваннем праграмнага матэрыялу? Чаму адпадаюць са школы, а часта трапляюць ва ўпадніцкі настрой?

Выбраць будучую прафесію вучню сёмага (у наступным годзе восьмага) класа, справа вельмі складаная. Складанасць яе вынікае не толькі з таго, што малады чалавек ведае аб ёй вельмі мала, а вельмі часта ведае толькі тое, што там многа плацяць, але так бацькі як і вучань не ведаюць аб здольнасцях, зацікаўленні і інтэлігенцыі (у псіхалагічным сэнсе), а часта і аб здароўі. Часта здараецца, што супольныя намаганні настаўнікаў, бацькоў і саміх вучняў не гарантуюць трапнага выбару прафесіі. І тады неабходна адклікацца да навуковых доследаў у гэтай галіне.

Установамі такога тыпу з'яўляюцца «Выхаваўча-прафесіянальныя парадні». Адна з іх знаходзіцца ў Бельску Падляшскім і абслугоўвае Сямяціцкі, Гайнаўскі і Бельскі паветы. Кіруе ёю **магістр псіхалогіі Юзэф Калужны.**

Вось адна са сцэнак з яго працы, пра якую мне расказаў. Антось, вучань сёмага класа, задумаў паступіць у агульнаадукацыйны ліцэй. Такая думка нарадзілася ў яго пад уплывам, між іншым, бацькоў, якія хочуць далей накіраваць сына ў Палітэхнічны інстытут (палітэхніку). Антось выглядае на здольнага хлопца, зарадны, умее бліснуць інтэлектам. Настаўнік перадае гэтыя словы шчыра, але адначасова заўважае, што Антось крыху лянівы. Гэта прымусіла неяк бацькоў пайсці і параіцца ў мгра Ю. Калужнага, які правёў псіхалагічнае даследванне на інтэлігенцыю вучня. Аказалася, што праўдападобна Антось не дасць сабе рады ў сярэдняй школе. Псіхолаг раіў бацькам паслаць хлопца ў прафесіянальную школу.

Трэба падкрэсліць, што парадня толькі раіць, але не забараняе паслаць дзіця ў тую ці іншую школу. Здараюцца выпадкі, калі бацькі нягледзячы на параду пасылаюць вучня ў сярэднюю школу. Безумоўна, што наогул, такія дзеці маюць цяжкасці ў навуцы і тады зноў звaрочваюцца за парадаю.

Але здараюцца і такія выпадкі. Віцька, як заўсёды, на матэматыцы дурэў. Новая настаўніца за гэта паставіла яму двойку. На другі раз Віця рашаў задачу пры дошцы і памыліўся ў падліках. Настаўніца пры гэтым сказала: «Бачыш, на каньках дык ты не памыляешся, а пры дошцы то ты не герой». І зноў паставіла двойку. Гэтага хапіла, каб Віця матэматыку зненавідзеў і перастаў зусім яе вучыць. Аб хлопцу пашла думка, што ён не мае здольнасці да гэтага прадмета. Даследванні, праведзеныя псіхолагам, выказалі, што Віці **хапае здольнасці,** каб кончыць эканамічны тэхнікум і быць добрым працаўніком у гэтай прафесіі.

Такімі і таму падобнымі справамі займаюцца выхаваўча - прафесіянальныя парадні. Мгр Ю. Калужны апрача працы на месцы, кожны тыдзень наведвае паасобныя школы ў паветах, праводзіць даклады і гутаркі на сходах настаўнікаў. Але адначасова сцвярджае, што даклад можа быць надта цэнны, але яго водгук слабы. На яго думку настаўніку больш дае размова з ім і разгляданне спраў на канкрэтным матэрыяле.

Наогул у выхаванні, хто б гэта не быў, трэба шырэй карыстацца навуковым, псіхалагічным пунктам гледжання. А гэта многім з нас не хапае. Таму лічу надта цэнным, што навуковыя пляцоўкі гэтага тыпу штораз набліжаюцца да школ. Шкада, што іх малавата ў адносінах да патрэб. Але, як і ўсюды, прычынаю з'яўляецца недахоп кваліфікаванай кадры псіхолагаў, якія больш за ўсё кіруюцца ў прамысловыя прадпрыемствы, таму што там большыя заробкі. Але можа і на «асветнай вуліцы будзе калісь свята».

А. ЛАБАНОВІЧ

# З дзейнасці ЗМВ

У Гайнаўскім павеце дзейнічае 88 гурткоў Саюза вясковай моладзі. Згуртоўваюць яны 2 150 членаў. У гуртках наглядаецца пастаянны рух. Адны выязджаюць шукаць шчасця за межамі роднай вёскі, другія — змучаныя пошукамі — вяртаюцца на бацькоўскую гаспадарку. Але лік членаў гэтай маладзёжнай арганізацыі на Гайнаўшчыне расце з кожным годам. Вось ад сакавіка да снежня 1965 года ў ЗМВ запісалася тут аж 450 дзяўчат і хлопцаў.

Амаль кожны гурток ЗМВ стараецца зімой апрацаваць нейкую «камедыйку». Многа ўвагі арганізацыя прысвячае папаўненню сельскагаспадарчых ведаў. 646 членаў ЗМВ у Гайнаўскім павеце вучыцца ў школах сельскагаспадарчай падрыхтоўкі. 55 сярод іх здалі экзамен у мінулым годзе перад дзяржаўнай камісіяй.

Павятовае праўленне ЗМВ у Гайнаўцы праводзіць сярод сваіх членаў розныя конкурсы, якія маюць зацікавіць вясковую моладзь навейшымі метадамі гаспадаравання. У мінулым годзе ЗМВ праводзіў конкурс на найлепшыя вынікі ў гадоўлі і апрацоўцы зямлі. Адну з узнагарод — электрычную сціральную машыну — заваяваў гурток у Трасцянцы.

Ажыўленню актыўнасці вясковых арганізацый ЗМВ спрые перадз'ездаўская кампанія, якую ад паловы лістапада 1965 года праводзіць гэтая арганізацыя. Краёвы з'езд ЗМВ адбудзецца ў лютым гэтага года. Усім гурткам ЗМВ жадаем поспехаў у іх змаганнях за змену аблічча нашай вёскі. (вр)

# •АД ОРЛІ• ДА ПІЛІК

(Працяг са стар. 1)

але Орля ўвогуле ці не мае шчасця да кіраўніка, ці не пастараецца, каб яго мець. Ад людзей, ад людзей усё. На маю скаргу, што ГРН не дбаюць пра культуру ў вёсцы Уладзіслаў Гаданьчук: калі чалавек працуе з задавальненнем, то ўсё знойдзе і з радамі грамадскімі дагаворыцца. Бяда, што задаволеных культурных працаўнікоў нямнога.

У Пілiках, іншай вёсцы Бельшчыны, праўда, інакш. Тут кіраўнік святліцы — энергічная дзяўчына Марыся Гаўрылюк. Сумела сабраць вакол святліцы вялікі круг людзей. Прыходзяць, прыемна. Панішчыліся крэслы. І тут... усе ад пiліцкіх маладых і здольных хлопцаў аж па бельскі дом культуры раскладаюць рукі, нібы што няма рады, няма каму паправіць папсаваных крэсел. Са свайго боку прапаную: няхай Марыся возьме малаток і шрубкі і зробіць тое, што лёгка зрабіць кожнаму хлопцу.

Бельскія вёскі маюць: клубаў «Руху» — 18, ГСаўскіх — 16, грамадскіх святліц — 15, святліц адміністраваных бясплатна (так званых спалэчных) — 2. Гэта ў Любешчы і ўжо гістарычная амаль у Райках. Дзве апошнія святліцы розніцца маюць тым ад нармальных, што замятаюць іх, паляць у іх печах і іншую такую чорную работу робяць усе звычайныя людзі. У Райках нікога не здзівіць, калі венік возьме сам найбольшы закапёршчык Іван Семянюк. А ў нармальных святліцах такую работу можа рабіць толькі прыбіральшчыца, бо ўсе звычайныя людзі яе не робяць. І таму нармальныя святліцы (якіх большасць!) могуць мець непамытыя падлогі, бо заўсёды ёсць вытлумачэнне: ГРН не даў грошай на мыццё падлогі і вокан. Падобна справа маецца і ў клубах «Руху», бо яны таксама нармальныя.

Грамадскія рады нарадовыя маюць абавязкі перад культурай. У Бельску гэтую справу ставіцца зараз выразна і будзе яшчэ, як мне казалі, выразней. Але «калі чалавек працуе з задавальненнем, ён знойдзе і раду і дарогу да яе. Усё залежыць ад чалавека».

У Бельскім павеце нават у інспектараце асветы слова святліца паўтараецца часта. І ўсё не вельмі вядома, што гэта такое. Аб клубах «Руху» мала гаворыцца і менш з імі клопатаў. Клуб у Страблі нават моцна блішчыць праз сваю працу. Ён найлепшы клуб у павеце.

А святліцы? Яны выраслі як хацелі, дзе хацелі і якія хацелі. Святліца была патрэбна для забаў і такая яна будавалася, як мы казалі, грамадскім чынам.

39 прашэнняў і цяпер ляжыць у інспектараце культуры ў павеце, каб выдаў пазваленне будаваць у вёсцы святліцу. Як раней. Грамадскім чынам, які трэба было ратаваць з дзяржаўнай кішэні. А калі павятовая дзяржаўная кішэня не магла даць, то, так як у Храбалах, пастаўлены са старой хаты зруб згнiў. Да канца не хапіла чыну! 39 прашэнняў ляжыць, каб святліцу, невялікую, з такой адной адзінай залай, дзе б можна было б танцаваць, будаваць. А інспектар такіх прашэнняў не задаволіць. Ужо не можна. Культура павінна ж расці. Калі будаваць, то будынак хоць тыповы, але прыстасаваны, з нейкімі там прэтэнзіямі да культурнай ролі. А такі каштуе 800 тысяч злотых. 400 тысяч з іх павінны даць самі людзі. (200 грашыма і 200 работай). 39 прашэнняў не споўняцца.

А мо ўсю канцэпцыю прадумаць ад пачатку? Канцэпцыю адносна святліцы, яе вялікасці, выгляду і яе ролі.

ВЕРА ЛЕЎЧУК



 

 

# Беларускія палітычныя арганізацыі дваццатых гадоў

**Сутыкненне з гісторыяй беларускіх арганізацый, якія дзейнічалі на тэрыторыі Заходняй Беларусі ў дваццатыя гады надзвычай павучальнае. Паказвае яно на характар беларускага грамадства, на характар яго палітычных імкненняў.**

Цікавая рэч, што ў той час, калі дзейнічала Беларуская сялянска-работніцкая Грамада, на тэрыторыі Заходняй Беларусі існавала каля дзесятка іншых арганізацый і палітычных групіровак. Сіла аднак усіх гэтых груп разам узятых не стварыла і дзесятай долі той грамадскай сілы, якою распараджалася Грамада. Вось важнейшыя з гэтых групіровак.

1. **Беларускі сялянскі саюз** з пасламі Ярэмічам і Рагуляй на чале паўстаў з расколу ў Беларускім пасольскім клубе 1925 года, у выніку якога паўстае Грамада. Паслы Ярэміч і Рагуля супрацьстаўляюцца Грамадзе ў імя «сялянскай салідарнасці». У праграме Саюза стаяла: патрабаванне права народаў на самаакрэсленне, падзел абшарніцкіх, дзяржаўных, касцельных і царкоўных земляў сярод сялян, устрымання польскага асадніцтва на беларускіх землях, бясплатная беларуская асвета, змяншэнне падаткаў, перадача капіталістычных прадпрыемстваў у рукі рабочых. У час разгрому Грамады дзеячы сялянскага саюза выступалі востра супраць гэтых праследванняў.

2. **Хрысціянская дэмакратыя** — адна з найбольш трывалых групіровак у беларускім нацыянальным руху. Афіцыйная назва групіроўкі некалькі разоў змянялася. Згуртоўвала яна ў пераважнай большасці беларусаў-католікаў, у тым некалькі дзясяткаў каталіцкіх ксяндзоў на чале з ксяндзом Адамам Станкевічам, хаця амбіцыяй арганізацыі было аб'ядноўванне і стаяўшых на рэлігійным грунце праваслаўных. Канчатковай сваёй мэтай беларуская хадэцыя лічыла стварэнне «адзінай беларускай народнай рэспублікі» ў Саюзе з народамі: літоўскім і украінскім. Як метад бачыла яна выхоўванне беларускай вёскі ў нацыянальным духу. У канкрэтных палітычных пастулатах беларуская хадэцыя ставіла: развіццё самаўпраўлення, замена пастаяннай арміі народнай міліцыяй, дэмакратычныя правы для ўсіх грамадзян, поўная беларутынізацыя касцёла і царквы на беларускіх землях. Хадэцыя прыватную ўласнасць лічыла падставай «цывілізаванага грамадства», тым не менш у праграме прапагавала барацьбу супраць «абшарніцтва і капіталізму» дамагаючыся падзелу зямлі так, каб кожны меў толькі, колькі можа загаспадараваць уласнымі сіламі.

3. **Праваслаўнае беларускае дэмакратычнае аб'яднанне** паўстае ў 1927 г., як партыя, канкурэнцыйная да Хрысціянскай дэмакратыі. Правадыром групы быў сенатар Багдановіч стваральнік тзв. Стараправаслаўнай царквы, якая выступіла супраць аўтакефаліі. Аб'яднанне пастулявала: аддзяленне царквы ад дзяржавы, права народаў на самаакрэсленне, сельскагаспадарчую рэформу, школу на роднай мове, суды прысяжных, знясенне пакарання смерцю, скарачэння вайсковай службы, разбудову самаўпраўленняў. У выбарах 1928 года аб'яднанне пацярпела поўны крах, а Багдановіч увайшоў у сенат толькі дзякуючы міжпартыйным паразумленням. Пасля гэтага аб'яднанне распадаецца.

4. **Беларуская сялянская партыя** паўстае ў 1928 годзе з расколу ў Беларускім сялянскім саюзе, які адбыўся перад усім на фоне арганізацыйных непаладак. Праграма крыху больш правая ад праграмы саюза; ніякай большай ролі не адыграла.

5. **Беларуская радыкальна - народная партыя** створана ў 1927 годзе групай Францішка Умястоўскага былога рэдактара «Нашай Долі». Была гэта група моцна паланафільская і антысавецкая. Пэўнае ажыўленне групы наступіла ў сувязі з прыходам да ўлады Пілсудскага, з якім Умястоўскі і яго прыхільнікі вязалі надзеі на пэўныя ўступкі для «беларускай справы». У выбарах 1928 г. група прапагуе галасаванне на спісы дзяржаўнага блока — ББВР. Пасля выбараў радыкальна - народная партыя знікае.

6. **Беларуская нацыянальная рада** створаная ў 1924 годзе групай антысавецкіх дзеячаў: Паўлюкевіча, Вернікоўскага і інш., якія высоўвалі паланафільскую праграму. Для супрацьдзеяння ТБШ стварае асветную прыбудоўку «Прасвета». У 1927 годзе пераўтвараецца ў Беларускую нацыянальную партыю, якая высоўвае лозунг «незалежнасці аб'яднаных зямель беларускага народа». Прапагуе антыкамунізм і аб'яднанне ўсіх класаў вокал нацыяналістычных лозунгаў. У выбарах 1928 года пацярпела абсалютны крах, пасля ўсяго замерла натуральнай смерцю.

7. **«Наперад»** група Астроўскага і Луцкевіча, здраднікаў ідэі Грамады, амаль ніякай ролі ў палітычным жыцці не адыграла.

Характэрна, што ўсе гэтыя арганізацыі, уключна з апошнімі антыкамуністычнымі, ставілі ў сваіх праграмах і выступленнях пэўныя грамадска-радыкальныя ідэі, як, напрыклад, сельскагаспадарчыя рэформы і г.д. Чыста нацыяналістычныя ідэі амаль не даходзілі да сялянскіх мас, якія патрабавалі перад усім вырашэння эканамічна - грамадскіх праблем. І таму, каб пазбегнуць абсалютнай ізаляцыі групіроўкі гэтыя ў праграмах сваіх вымушаны былі ставіць адпавядаючыя патрабаванням беларускага сялянства грамадска - эканамічныя праблемы.

Аднак у сапраўднасці змабілізаваць масы беларускага сялянства да палітычнай барацьбы змагла толькі Грамада, якая высунула праграму найбольш смелую, адначасова найбольш ясную і канкрэтную, праграму «незалежнай беларускай рэспублікі пад кіраўніцтвам **рабочых і сялян»**. Ніводная з вышэй пералічаных партый такога патрабавання, патрабавання рабоча - сялянскай улады, паставіць не асмелілася.

**УЛ. ПАЎЛЮЧУК**



СЯДАЙЦЕ, ЕДЗЕМ!

## Снежка ў Беластоку

Да 20 лютага (ад 5-га) выступае ў Беластоку калектыў Варшаўскага цырка «Байка». Ён прадстаўляе цырковую казку «Каралеўна Снежка і 7 красналюдкаў». У прадстаўленні выступаюць жывыя звяры і... сапраўдныя красналюдкі. Білеты па 21, 16 і 10 зл.

Турыстычная спулдзельня «Грамада» чакае на заказы і давязе ахвотных на гэтае прадстаўленне.

**На здымку: каралева і красналі. (вл)**

## У вялікі тэатр

У кожную нядзелю лютага «Грамада» арганізуе экскурсіі ў Вялікі тэатр у Варшаве на найлепшыя оперы. І так,
6.II. — «Кароль Роджар» — К. Шыманоўскага
13. — «Галька» — С. Манюшкі
20.II. — Вечар Стравінскага
27.II. — «Пан Твардоўскі» — балет А. Ружыцкага.

Заказы рабіць на адрас «Грамада» Беласток, вул. Варшаўская 38, тэл 24-70.

### АДНЫМ СКАЗАМ

Новы год у Беластоцкім сімфанічным аркестры пачаўся цікава. Першым карнавальным канцэртам дырыжыраваў вядомы польскі дырыжор Дэбіх. У другім, у палове студзеня, выступіла слаўная піяністка Барбара Гесэ - Букоўская.

*

У Музеі рэвалюцыйнага руху ў Беластоку адкрыта выстаўка: «Гродзеншчына сёння». Яна прыехала да нас з Гродна, дзе раней экспанавалася падобная выстаўка аб Беласточчыне. Гродзенская выстаўка потым павандруе ў паветы.

*

Камісія культуры ВРН на сваім апошнім пасяджэнні 31 студзеня на парадку дня паставіла праграму святкавання 1000-годдзя Польскай Дзяржавы ў ваяводстве, а таксама разглядала дзейнасць бібліятэк і чытальніцтва на беластоцкай вёсцы. (вл)

# ЗВЯЗАНЫЯ РУКІ

Сельскагаспадарчы гурток у Скупаве дзейнічае тры гады. Згуртоўвае ён 24 члены. Гурток, вядома, гэта яшчэ не цэлая вёска. У Скупаве жыве каля 150 гаспадароў. Гуртkоўскія машыны служаць ім усім.

Бяда аднак у тым, што гэтых машын мала. Гурток мае абмалотачны агрэгат, сячкарню і сеўнікі для збожжа і штучных угнаенняў.

Скупаўскія гаспадары маюць вялікі апетыт на трактар і ўсе іншыя машыны, якія звычайна дадаюць да яго. Ахвотна купілі б нат два або тры трактары. Грошы ёсць. Іх фонд развіцця сельскай гаспадаркі штогод павялічваецца ў банку і няма магчымасці выкарыстаць яго дзеля агульнага развіцця вёскі. Ужо некалькі гадоў нізка кланяюцца розным прадстаўнікам павятовых і ваяводскіх установ, але ніхто не хоча прадаць скупаўскаму гуртку жалезнага каня.

Не дазваляе суровы закон канцэнтрацыі сельскагаспадарчай тэхнікі. Скупаўцам не пашчаслівілася. Калі ўстанаўлялі раёны канцэнтрацыі машын, у Скупаве не было яшчэ сельскагаспадарчага гуртка. Таму Скупава прыпісалі да Міклашоў.

— За трактары ў нас цяпер б'юцца, — сцвярджае мясцовы грамадскі дзеяч, кіраўнік скупаўскай школы, Язэп Навіцкі. — Са Скупава ў Міклашы 8 кіламетраў. Каб заказаць трактар, селянін траціць амаль цэлы дзень. Часта бывае аднак яшчэ горш. Гаспадар паедзе, дагаворыцца з праўленнем міклашоўскага гуртка, што тады і тады прыедзе трактарыст і заарэ поле. Селянін верыць. Вывозіць гной, растрасае яго, каб трактар, барані бог, не чакаў, а трактарыст зусім не паяўляецца, або прыязджае на другі дзень. Гной высыхае, робіцца бескарысным саломай. Гаспадар праклінае цэлы свет і, як за дзеда бывала, запрагае аўсянага трактара. Я сам, каб заараць прышкольны агародчык, вымушаны быў аж два разы ездзіць у Міклашы і ледзь вымаліў ад іх трактар на няцэлую гадзіну.

Цяжка журналісту абвінавачваць адных, а апраўдваць другіх. Найгорш, што ўсе партнёры ў тым выпадку маюць рацыю. ВЗГС не можа прадаць скупаўцам ніводнага трактара, бо мае звязаныя рукі **слушным прынцыпам канцэнтрацыі сельскагаспадарчай тэхнікі.** Няма, пакуль што, у нашай краіне столькі трактараў і другіх сельскагаспадарчых машын, каб маглі мы дазволіць сабе на роскаш продажы іх усім, хто толькі хоча і колькі хоча.

Міклашоўскі гурток не зможа ніколі задаволіць патрэб гаспадароў са Скупава, бо надта ж далёка ад іх да гэтай вёскі і ў першую чаргу, зразумела; абслугоўвае ўласных членаў ды аднавяскоўцаў. Скупава тады застаецца ў становішчы сіраты, якую адпіхае ад сябе айчым, ды мачы не вельмі кахае.

Выдаецца мне аднак, што існуе яшчэ вышэйшы прынцып ад прынцыпу канцэнтрацыі машын. **Гэта прынцып гаспадарлівасці і эканамічнага разліку.** Гэты момант асабліва моцна падкрэсліваў старшыня Прэзідыума ВРН у Беластоку, выступаючы на снежаньскай бюджэтнай сесіі ваяводскай рады. Гаспадарлівасць і эканамічны разлік былі асноўнымі справамі, якія абмяркоўваліся на IV пленуме Цэнтральнага Камітэта ПАРП.

Як гэта адносіцца да Скупава і Міклашоў?

Жыхары Міклашоў гаспадараць на палосках. Пры такіх умовах трактары міклашоўскага гуртка не знаходзяць поўнага выкарыстання. Праўленне гуртка, каб неяк ратаваць свой бюджэт, возіць сваімі трактарамі гэзсаўскія тавары.

Каб прыехаць трактарам з Міклашоў у Скупава і вярнуцца назад, трактарыст траціць дарэмна гадзіну часу і непатрэбна спальвае шмат гаручага ды разбівае машыны па палявых дарогах. **Эканамічна гэта не аплочваецца і не мае нічога супольнага з прынцыпам добрай гаспадарлівасці.** Зразумела тады, чаму міклашоўскі гурток вельмі неахвотна адносіцца да заказаў скупаўскіх гаспадароў.

Утвараецца зачараваны круг. Хто яго адчарує? Хто яго разарве? Хто развяжа рукі гаспадарам са Скупава?

Яны ж выяўляюць як найбольш шчырую ахвоту гаспадараваць на сваіх хутарах па-новаму, з карысцю для сябе і для дзяржавы. Неаднойчы далі ўжо прыклад добрай гаспадарлівасці, асабліва тады, калі грамадскім чынам будавалі брук, краму, супрацьпажарніцкі басейн і вясковы клуб, калі збіралі грошы на тэлевізар.

Не, не разыходзіцца пра тое, каб адабраць трактары міклашоўцам і аддаць іх у Скупава. У Міклашах яны таксама неабходныя, хаця там палоскі. **Але факт фактам, што і для Скупава прынамсі адзін трактар павінен знайсціся, хаця работы ў скупаўскіх гаспадароў хапіла б нават для трох трактараў. Тут прынцып канцэнтрацыі палёў павінен падпарадкавацца прынцыпу гаспадарлівасці і эканамічнага разліку.** Маю надзею, што гэтую справу неяк зможа вырашыць Павятовае Праўленне Саюза сельскагаспадарчых гурткоў у Гайнаўцы, якому нізка кланяецца

**ВІКТАР РУДЧЫК**



 

 



# ІНДЗЕЙЦЫ НАПАКАЗ

Мары маёй маладосці аб тым, каб сустрэцца з праўдзівымі індзейцамі, здавалася, зараз споўняцца. Імчымся аўтамашынаю праз Канаду. З незвычайнай эмоцыяй чытаю мнагалікія тут стараіндзейскія геаграфічныя назвы. На жаль, Сакалінае Вока ці Страшную Стралу немагчыма сустрэць на натуральных турысцкіх шляхах.

Штопраўда, індзейцаў — гэтых даўніх валадароў амерыканскай зямлі ёсць у Канадзе каля 163 000, але сустрэць іх можна толькі ў далёкіх, глухіх запаведніках, як бы гетах, спецыяльна выдзеленых ім — альбо часамі ў вялікіх гарадах, дзе апрача бронзавай скуры нічым асаблівым не адрозніваюцца яны, гэтыя гарадскія індзейцы, ад масы народа. Зусім асіміляваліся, расплыліся ў масе англійскіх і французскіх канадцаў.

У індзейскай вёсцы непадалёку горада Манрэаль можна пабачыць у хатах тэлевізары, халадзільнікі — на панадворках, легкавыя машыны ды іншыя вынаходніцтвы белых людзей. Большасць жыхараў гэтай вёскі працуе ў Манрэалі, пераважна, на будоўлях высокіх дамоў, мастоў. Кажуць, што індзейцы не адчуваюць страху перад вышынёю, таму спакойна, як бы па зямлі, ступаюць па высачэзных сталёвых канструкцыях. Прызнацца, быў я расчараваны фактам, што гэта вёска такая, як сотні другіх канадскіх мясцовасцей.

Выбіраўся ўжо ад'ехаць, калі раптам пачуў дзіўныя, страшныя крыкі, ломат бубнаў ды ўсякіх пасвісцёлаў — словам, сапраўдны ваенны танец. Паехаўшы ў тым напрамку ўбачыў перад сабою вялізны надпіс, што за невялікай аплатаю можна пабачыць праўдзівую індзейскую вёску слаўнага некалі племені іракезаў. Відаць частакол, а на ім маса розных афіш рэкламуючых амерыканскую гарэлку «кока-кола». Прытым, афішы заахвочваюць наведаць гэту вёску. Ля ўваходу стаяць гандлёвыя ларкі, у якіх прадаюць індзейскія памяткі. Далей — вытаптаны пляц, на якім група індзейцаў танцуе. Адзін з іх выглядае найбольш страшна, выкрыквае да мікрафона незразумелыя словы ваеннай песні. Навокал чынна прыселі турысты. Глядзяць. Пасля «прадстаўлення» адбываецца кароткая размова з Вялікім Правадыром. Правадыр гаворыць па-англійску. Праз хвіліну зноў пачнецца тое самае прадстаўленне, прыйшлі новыя турысты.

Правадыр дае апошнія распараджэнні сваім танцорам... Прадстаўленне пачалося нанава.

Я вярнуўся ў Манрэаль...

«Свят» (а-ся)

# БЫЛЬ ЦІ МІФ

Дваццаць тысяч кніг напісана аб Атлантыдзе, аб гэтым загадкавым востраве з райскім кліматам і казачным пейзажам, з дзіўнымі кветкамі і жывёлай. У яго цэнтры размяшчаўся палац Атласа, сына бога Пасяйдона, а вакол яго кольцамі чаргаваліся гавані і ўчасткі сушы. Іх прарэзаў, выходзячы ў мора, радыяльны канал. Жыхары вострава — атланты былі шчаслівыя і багатыя.

Але потым прыйшло страшэннае землетрасенне, а за ім, і паводка, днямі і начамі абрушваліся з неба патокі вады, і востраў Атлантыда пагрузіўся пад ваду і знік.

Так піша старажытнагрэчаскі філосаф Платон пра гіганцкую катастрофу, якая загубіла квітнеючую краіну за 9 тысяч гадоў да яго. І вось ужо не адну сотню гадоў вучоныя даказваюць і адвяргаюць існаванне Атлантыды. У XVII стагоддзі англійскі філосаф Бэкон гаварыў, што Платон, відаць, меў на ўвазе Амерыку. Калегі Бэкона пярэчылі яму, лічачы, што зніклы востраў знаходзіўся паблізу Індыі. Іншыя, наадварот, указвалі раёны Каўказа, Марока, Грэнландыі, Новай Зямлі, Карыбскага мора... І хоць, паводле Платона, Атлантыда знікла з твару Зямлі, многія падарожнікі працягвалі шукаць яе па ўсім свеце.

У 1933 годзе пытанне аб Атлантыдзе раскалола на два лагеры ўдзельнікаў кангрэсу акіянолагаў. Адны былі за «існаванне», другія супраць. У кожным лагеры меліся салідныя довады. Але да агульнай думкі кангрэс так і не прыйшоў.

Пасля вайны польскі прафесар Каменскі выказаў меркаванне, што ў 9564 годзе да нашай эры Зямлю закрануў хвост каметы. Пры гэтым гіганцкі метэарыт прабіў зямную кару, выклікаў вывяржэнне магмы і загубіў Атлантыду. Польскага вучонага падтрымалі амерыканскія спецыялісты.

Савецкі даследчык Е. Ф. Хагеймейстэрава таксама лічыць, што існаваў мацярык, якога цяпер няма. На яе думку, цёплае цячэнне Гальфстрым раней не даходзіла да Ледавітага акіяна. На яго шляху стаяла нейкая магутная перашкода: магчыма, вялікі востраў, а магчыма, і цэлы мацярык.

У 1962 годзе на міжнародным сімпозіуме ў Рэйк'явіку вучоныя ўстанавілі, што некаторыя расліны Паўночнай Амерыкі, Грэнландыі, Ісландыі, Шпіцбергена, Брытанскіх астравоў і Скандынавіі маглі так шырока распаўсюдзіцца толькі праз нейкі мацярык ці востраў.

Але ці Атлантыда гэта?

І вось яшчэ адна з самых новых гіпотэз. У Эгейскім моры ёсць востраў Сантарын. Калісьці ён быў большы, чым цяпер. Але вывяржэнне вулкана на востраве звaліла яго большую частку ў марскую бездань.

Ці не аб сантарынскай катастрофе пісаў Платон? Тым больш, што гістарычныя крыніцы пацвярджаюць, што яна была.

Як бачыце, гіпотэз аб Атлантыдзе хоць адбаўляй. Але не адна з іх не стала пакуль даказаным фактам. Аднак вучоныя рана ці позна адкажуць зусім пэўна, была ці не была Атлантыда.





# У ПОШУКАХ АЛМАЗАЎ

З выгляду ён напамінае паляўнічага або партызана. Аднак Фелікс Камінскі не з'яўляецца ані паляўнічым, ані партызанам. Ён геолаг, спецыяліст ад пошукаў алмазаў. Гэты рэдкі, але незвычайна цвёрды камень вельмі патрэбны сучаснаму металаапрацоўчаму промыслу. Высока ён цэніцца таксама ў ювелірных вырабах. Фелікса Камінскага бачым у лясах далёкай Чукоткі. Дзякуючы яго пошукам устаноўлена ў Савецкім Саюзе шмат месцаў знаходжання гэтага каштоўнага мінерала.

(вр)

Фота: «Аганёк»

# КАМАРЫ І ПОЛ

Мабыць этымолагі пасля многагадовых доследаў і назіранняў, статыстык і падлікаў — дайшлі да вываду, што камары больш любяць калоць мужчын чым жанчын. Мужчынскую кроў больш усяго ўпадабалі сабе камары-самкі, бо самцы часцей усяго пагарджаюць людзьмі, а лічаць лепшым нектар кветак. Гэта не абазначае, што жанчыны праз свой пол абяспечаны перад агрэсіўнасцю камароў. Калі ў кампаніі збракне мужчын — камары-самкі, хочуць ці не хочуць, мусяць задаволіцца шкураю і крывёю жанчын.

(ака)

АЛЯКСЕЙ КАРПЮК

# ПУШЧАНСКАЯ АДЫСЕЯ

Дзесьці стаіць фронт, там — тварам у твар дзве арміі. Мы дапамагаем сваёй у тыле праціўніка. Патрыятызм ва мне цяпер праяўляецца ў тым, што я прыбыў у Каўняны забіць солтыса Тарноўскага. Але, гледзячы на саламяныя стрэхі, мірныя бярозы і вербы, ужо не адчуваю ўздыму.

Перад вёскай чарнее амбразура дзота. З квадратнай адтуліны, выкладзенай тарцамі бярвенняў, выглядае ствол кулямёта на трынозе і два заспаныя твары. Гніды, прытаіліся! Супроць каго?!. Крычу да іх.

— Сюды вылазіць! — перакладае Сашка.

— Сюды, кажа вам шэф! І хутка, бісовы дзеці! — дапамагае Косця.

Вёска Каўняны мае мо з чатырыста двароў, у ёй жывуць беларусы, палякі, татары. Якраз не то праваслаўнае не то татарскае свята, адны працуюць, другія валэндаюцца па вуліцы без работы. Пакуль вартаўнікі выпаўзаюць з нары, вакол нас паспявае сабрацца натоўп мо з сотні чалавек. Гергачу са злосцю, хапаюся за аўтамат.

171

— Шэф пытаецца — гэта ваш бандыт? — паказвае Кардаш на Мішу.

— Не-е, пано-очку! — хорам пярэчыць некалькі мужыкоў і цётак.

— Нэ-э-э! — перакрыўляю.

— Далібог, не наш!

— Гэта нейкі чужы!

— У вас тут кожны бандыт! — узводжу аўтамат.

Людзі шарахаюцца ў бакі, але бачаць, што іх толькі палохаюць, зараз жа вяртаюцца. Цалкам уваходжу ў ролю немца. У паношанай саматканай вопратцы, босыя, з закарузлымі рукамі мужчыны, з тоўстымі, як збанкі, лыткамі дзеўкі, з высушанымі тварамі бабулі анямела тоўпяцца, як загіпнатызаваныя. У вачах — толькі смяротны жах! Яны варты жалю. Аднак жаль маглі абудзіць у тых, хто ведаў каўнянскія ўмовы. У фашыстаў іхні выгляд выклікаў бы зневажэнне, пагарду, параўнанне са статкам.

Заспаныя вартаўнікі нарэшце выпаўзаюць з дзота. Пру іх назад па зброю. Загадваю канваіраваць Мішу.

Крочым па вёсцы. Спераду Косця, Сашка, я. Ззаду — Мішка пад аховай блакіруе тылы. Вакол — вялізны натоўп. Пад нагамі шмыгаюць басаногія хлапчукі. Гэта яны паспелі абудзіць солтыса Тарноўскага. Пра яго я наслухаўся ўволю. Мярзотнік пры аблавах у лесе бывае больш крыважэрны за фашыстаў. У першую сусветную вайну пабываў у германскім палоне, ведае нямецкую мову, ці не разгадаеш, сволач, ты мяне?

172

Насустрач бяжыць пажылы дзядзька без нагавіц. На ім рыжы кажух, белыя кальсоны і незашнураваныя чаравікі. Па тым, як чалавек спяшаецца, як разганяе хлапчукоў, разумею — Тарноўскі! Світа наша спыняецца.

— Гэта — наш солтыс, пане, — паслужліва кажа вартаўнік.

Падыходжу да Тарноўскага і зацягваю яшчэ на полі падрыхтаваную легенду:

— Добры дзень! Лейтэнант Люкембах з Ягдкомандо Беластока! Прыбыў са ўзводам у лес для аблавы, але нашых груп ужо там не застаў...

— Гу-ут, пане, гу-ут! Яйкі? Масла?

— ...Толькі злавілі вось пацана...

— Гу-ут, пане, гу-ут! Яйкі? Масла?

Ёсць няпісанае правіла, паводле якога з першых фраз чалавека разгадаеш, як ён валодае замежнай мовай. Выходзіць — гэты тып не разумее мяне?

— Патрэбны фурманкі і вашы ўзброеныя людзі, каб адправіць злоўленага ў Крынкі і нас завезці. Зараз падыдуць яшчэ мае салдаты...

— Гу-ут, гэр шэф! Волен эсэн? Дрынкен?

— Машыны я адправіў раніцой, і давядзецца адвозіць нас на падводах. Заадно хачу глянуць на вашу славутую самаахову...

Навошта так ветліва гавару? Сапраўдны фашыст не стане цырымоніцца, загадае — і ўсё!

— Гу-ут, пане, гу-ут! Мо гарэлкі волен? Самагонка дрынкен? Рускі шнапс?

— Сёння нашых шмат сюды прыязджала?

Па інтанацыі фразы Тарноўскі адчувае пытанне. Трэба адказваць, я чакаю. Цяпер дакладна бачу: ён

173



 

